ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 42
люты, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Паліна КАЧАТКОВА:

# «Знайшла адзін невядомы аўтограф...»




**– Шаноўная Паліна Уладзіміраўна, у Вашай новай кнізе «Гняздо-2» апублікаваная аповесць «Паэт» пра юнацкія гады Максіма Багдановіча. Чаму Вы зацікавіліся тэмай сяброўства Дзіядора Дзябольскага і Максіма Багдановіча? Ці няма ў Вас жадання напісаць працяг аповесці «Паэт»?**

– Тэма сяброўства мяне ў прынцыпе вельмі цікавіць. Гэта пачуццё больш глыбокае, чым каханне. Дзіядор Дзябольскі пакінуў пра Максіма Багдановіча, напэўна, самыя цёплыя і змястоўныя (паводле псіхалогіі) успаміны. Максім Багдановіч прысвяціў свайму сябру філасофскі верш:

Быць можа, пуціна жыцця
Лягла пярсцёнкам, друг.
І я ў краіне забыцця
Не раз раджаўся, як дзіця,
Прайшоўшы поўны круг.

Гэтым вершам я распачынала кожную сваю экскурсію падчас працы ў музеі Максіма Багдановіча, бо і экспазіцыя мела канцэпцыю «жыццёвага кола»: ад першага дня – наражэння, да нязджэйсненых мараў і спадзяванняў ды смерці.

Аповесць «Паэт» пісалася ў 1996 годзе падчас працы ў музеі, калі б засталася працаваць у музеі, то, магчыма, быў бы працяг. Пераход да праваабарончай дзейнасці змяніў мой лёс. Я да 2001 года нічога не пісала наогул.

**– У навеле «Цені. Экскурс, напісаны былой музейнай супрацоўніцай» Вы ўзгадваеце сваё падарожжа па мясцінах, у якіх М. Багдановіч быў летам 1915 года, і гутарку з Нінай Дзябольскай (пляменніцай гімназічнага сябра М. Багдановіча Дзіядора Дзябольскага). Распавядзіце, калі ласка, пра самую нечаканую з разгаданых Вамі загадак жыцця і творчасці паэта?**

– Не разгадала ніводнай загадкі, але знайшла адзін невядомы аўтограф Максіма Багдановіча – пераадрасацыя на лісце, адрасаваным малодшаму брату – Льву Багдановічу.

**– Вы празаік, літаратуразнавец, даследчык творчасці Максіма Багдановіча, сцэнарыст, журналіст, праваабаронца... Як у Вас атрымліваецца сумяшчаць даследчыцкую працу з пісьменніцкай?**

– Пісьменніцкая праца была працай для мяне ў 1990-я, ва ўсе астатнія часы – гэта эпізоды.

**– Вы напісалі сцэнарыі дакументальных стужак «Гастарбайтар», «Сыс пра Сыса», «Пустазелле», «Прычына смерці – прочырк», «Убыл по приговору», «Людвіка» і інш. Які са знятых фільмаў найбольш падабаецца Вам самой і чаму?**

– Больш за ўсё мне падабаецца фільм «Людвіка», бо не толькі пра смерць, а пра жыццё, пра маю сяброўку, пра Беларускі музей у Вільні, які, я спадзяюся, усё ж адродзіцца.

**Даведка «Кніганошы»:**

**Паліна Качаткова (Сцепаненка) – празаік, літаратуразнавец, даследчык творчасці М. Багдановіча. Аўтар кніг «Матылі» (2012), «Гняздо-2» (2016). Нарадзілася ў 1968 годзе ў Оршы. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Бліскавіцы: анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду. Уклад., камент. А. Данільчык, В. Жыбуля. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 448 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 88).**

Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду «Бліскавіцы» – унікальнае выданне. Упершыню пад адной вокладкай змешчаны творы 61 беларускай паэткі, напісаныя ў «міжваенны» перыяд – з 1918 па 1941 г., што стварае панараму літаратурнага жыцця эпохі. У кнігу ўвайшлі творы і хрэстаматыйныя, і малавядомыя, і нават ніколі не публікаваныя раней.




**Брило Сабина. Это буквы: стихи. – Минск: Кнігазбор, 2016. – 140 с. – (Библиотека Союза белорусских писателей «Кнігарня пісьменніка»; вып. 87).**

Сабіна Брыло – адзін з найбольш яркіх аўтараў паэтычнага андэграўнду тут і цяпер. Цяжка сказаць, як працуюць гэтыя нескладаныя, на першы погляд, тэксты, але эфект, які яны выклікаюць, дзіўны. Пагрузіўшыся ў гэту мову, складана выйсці сухім, – але было б дзіўна, калі б чытач ставіў перад сабой такую задачу. У кнігу ўвайшлі выбраныя вершы на рускай і беларускай мовах, напісаныя з лета 2012 да восені 2016 года.




**Бараноўскі Міхал. VOLUMEN.1: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 56 с.: з іл. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Першая кніга вершаў Міхала Бараноўскага. Паэт Міхал Бараноўскі вядомы як заснавальнік і аўтар песняў для гурта «Нельга забыць», супрацоўнік музея і папулярызатар творчасці Максіма Багдановіча, Уладзіміра Караткевіча, на словы якіх гурт запісаў адмысловыя канцэртныя праграмы. Аўтарская музычная праграма Міхала мела назву «Месца моцы», тэксты з яе і прадстаўлены ў зборніку «Volumen.1» асобным раздзелам паэтычнай кнігі. Другая частка зборніка «Краг-Крых» змяшчае найноўшыя паэтычныя творы.




**Арцёмаў Аляксей. Скрозь кіламетры: вершы і пераклады. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 66 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

У кнігу «Скрозь кіламетры» ўвайшлі вершы і пераклады, створаныя ў 2008–2016 гадах. Паводле Насты Грышчук, трошкі іранічная інтанацыя вершаў Аляксея Арцёмава ператварае побытавыя сюжэты ў нешта выключнае, дапамагае «зрабіць з шараговага фотаздымка эцюд Дэга».




**Чытанка для маленькіх – 2. Укладальнік А. Івашчанка; мастачка Д. Мандзік. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 60 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 14).**

«Чытанка для маленькіх – 2», як і першая «Чытанка для маленькіх» (2013 г.), складзена паводле твораў «Чытанкі для дзіцячага садка», якая выйшла на замову МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» ў 2008 г. (укладальнікі В. Вячорка, П. Садоўскі).




**Да гісторыі беларускай дыяспары: матэрыялы конкурсу прац пра беларускае замежжа, прысвечанага 25-годдзю «Бацькаўшчыны». Сш. 2. Прадм. Н. Гардзіенка; пад навук. рэд. Н. Гардзіенка. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 176 с.**

Зборнік склалі тэксты, дасланыя на конкурс, абвешчаны МГА «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» да свайго 25-годдзя. Працы, прысвечаныя як асобным дзеячам, гэтак і пэўным з'явам, працэсам, тэндэнцыям у мінулым і сучаснасці беларускага замежжа. Матэрыялы друкуюцца правапісам арыгіналаў. Могуць быць цікавыя і навукоўцам, і аматарам вывучэння гісторыі і культуры Беларусі.




**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. №4, 2016. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 270 с.**

Чацвёрты нумар літаратурнага альманаха Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Брама» знаёміць з паэзіяй, прозай, перакладамі, літаратуразнаўчымі артыкуламі мясцовых аўтараў. Раздзел «Спадчына, успаміны, дакументы» ўтрымлівае артыкул Тамары Аўсяннікавай да 85-годдзя Ніла Гілевіча, біяграфічны артыкул Уладзіміра Ліўшыца «Платон Галавач: лёс чалавека і пісьменніка», артыкулы Валерыя Васілеўскага пра Аляксандра Тарасевіча і Альгерда Абуховіча, артыкул Сяргея Чыгрына, прысвечаны вершам Алеся Пісьмянкова на старонках «Магілёўскай праўды» і інш.




**Справа: альманах: вып. 4-2017. Гал. рэдактар А. Наварыч. – Мінск: Белпринт, Смэлтак, 2017. – 224 с., з іл.**

У чацвёртым выпуску альманаха «Справа» Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў змешчаныя творы беларускіх, украінскіх і польскіх аўтараў. Чытач знойдзе тут паэзію, прозу, эсэістыку, пераклады, навуковую публіцыстыку. Галоўная тэма гэтага выпуску – «Боль і як з ім жыць». Адным з цэнтральных твораў нумару з'яўляецца раман «Сонька» І. Карповіча, прызнаны крытыкамі адным з найлепшых раманаў Цэнтральнай Еўропы апошняга дзесяцігоддзя.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Каласы з нашай нівы: пераклады Кастуся Цвіркі з польскай мовы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 392 с.**

У кнізе змешчаны пераклады Кастуся Цвіркі польскамоўных паэтаў XIX стагоддзя, пераважна нараджэнцаў Беларусі. Сярод іх творы Францішка Карпінскага, Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Тамаша Зана, Антонія Гарэцкага, Яна Баршчэўскага, Аляксандра Ходзькі, Антонія Эдварда Адынца, Ігната Легатовіча, Тадэвуша Лада-Заблоцкага, Уладзіслава Сыракомлі і інш.




**Чыгрын Сяргей. Час спагадлівым не бывае: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 144 с.**

Кніга Сяргея Чыгрына пра лёсы беларусаў XX – пачатку XXI стагоддзяў. У ёй выкладзены малавядомыя раней факты з жыцця і дзейнасці Адольфа Зенюка, Уладзіміра і Яўгена Хлябцэвічаў, Уладыслава Казлоўшчыка, Георгія Пеха, Міхася Ліста, Пятра Першукевіча, Андрэя Чэмера, Уладзіміра Урбановіча, Алега Лойкі і іншых асобаў нашай Бацькаўшчыны.




**Выгнаны патрыцый: Кніга пра Міхася Стральцова. Уклад., прадм., камент. Міхася Скоблы. – Мінск: Лімарыус, 2017. – 432 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Гэтая кніга – не парадны партрэт у залатой раме класіка беларускай літаратуры Міхася Стральцова (1937–1987), а хутчэй мазаічная выява ў поўны рост, складзеная з дзясяткаў каляровых шкельцаў, у якіх адбілася і захавалася для нашчадкаў размаітае жыццё выдатнага творцы. Успаміны 34 аўтараў, раней не публікаваныя лісты пісьменніка, невядомыя архіўныя тэксты – усё гэта, безумоўна, зацікавіць прыхільнікаў творчасці М. Стральцова, які «даў інтэлектуальны пачатак прозе, пачуццёвую глыбіню эсэістыцы, шырыню і далягляднасць крытыцы, акварэльнасць і адухоўленасць паэзіі» (выраз Р. Барадуліна).




**Жыбуль Віктар. Дзяцел і дупло: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 76 с.**

«Дзяцел і дупло» – напэўна, самая вясёлая з выдадзеных на сёння кніг Віктара Жыбуля. Многія вершы, якія склалі яе, неаднойчы гучалі на паэтычна-музычных вечарынах і слэмах у адметным аўтарскім выкананні і паспелі заваяваць прыхільнасць аўдыторыі. Іронія, гратэск, «чорны» гумар, даведзенне да абсурду, гульня словаў і сэнсаў здольныя не толькі выклікаць усмешку, але нярэдка і задумацца над рознымі праявамі нашай зменліва-зманлівай рэчаіснасці.




**Гапееў Валеры. Ноч цмока: раман. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 356 с.**

Раман пачынаецца як класічны дэтэктыў: загадкавая смерць маладой жанчыны, сведкаў няма, слядоў таксама, сродак забойства нявызначаны. Далей высвятляецца, што забітая – лесбіянка, дачка мясцовага ведзьмака, сектантка, што нарадзіла за колькі дзён да смерці. Са звыклых дэтэктыўных рэек дзеянне збочвае ў гушчар містыкі. Гэта эратычна-містычны дэтэктыў на тле беларускай правінцыі найноўшага часу…




**Рублеўская Людміла. Дагератып: дэкадансны раман. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 246 с. – (Літаратурная серыя «Шляхецкая чытанка»).**

Гісторыка-прыгодніцкі раман Людмілы Рублеўскай «Дагератып» мае незвычайную структуру: дзеянне Кнігі знешняга кола перацякае ў Кнігу ўнутранага кола, з сучаснасці ў гістарычнае мінулае з непаўторнай атмасферай дэкадансу. Два зрэзы ў часе непарыўна звязаныя між сабою. Гісторыя пачынаецца ў нашу эпоху: малады біёлаг Гальяш рыхтуецца з'язджаць за мяжу, але, разбіраючы рэчы ў дзедавай кватэры, знаходзіць стары дзённік. Перад чытачом паўстаюць загадкавыя падзеі канца XIX стагоддзя...




**Чарнышэвіч Фларыян. Надбярэзінцы: раман у трох частках, заснаваны на рэальных падзеях. Пер. з пол. К.С. Мацiеўскай [і інш.]; пад рэд. М.А. Мартысевіч. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 664 с.**

«Надбярэзінцы» – самы вядомы твор Фларыяна Чарнышэвіча, польскага пісьменніка, які паходзіў з тэрыторыі сённяшняй Беларусі і з 1924 года жыў у Аргентыне. Гэтая авантурна-меладраматычная эпапея, напісаная на аўтабіяграфічным матэрыяле, апавядае пра драматычны лёс жыхароў шляхецкіх засценкаў на землях паміж Бярэзінай і Дняпром у 1911–1920 гадах. Яе першае выданне ў 1942 годзе прайшло незаўважна, па-новаму было адкрыта польскімі інтэлектуаламі ў 1950-я гады, атрымаўшы надзвычай ухвальныя водгукі за рэалістычнасць і маштабнасць твору.




**Саша Романова. Марцев. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 232 с.**

Як гэта: правесці дзяцінства ў доме Машэрава, зарабіць у 1990-я неверагодныя грошы і ўкласці іх у журналістыку? Мець пяць жонак, газеты «БДГ» і «Імя», дамагчыся вагі і ўплыву ў рэспубліцы, а потым – страціць усё? Пётр Марцаў распавядзе. У яго асабістай гісторыі кожны ўбачыць сябе, непрыкаянага беларуса, які сталеў у 1990-я. Таго, хто сёння стаіць на ростані: рызыкаваць ці здавацца, з'язджаць ці заставацца.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Гаічак Іржы. Рыбіна кроў: раман. Пераклад з чэшскай Святланы Рогач. – Вільня: Логвінаў, 2016. – 430 с. – (Чэшская калекцыя).**

Раман «Рыбіна кроў» – гэта гісторыя разбурэння сям'і ў перыяд вялікіх сацыяльных узрушэнняў канца XX ст. і гісторыя разбурэння вёскі, якая пала ахвяраю будаўніцтва атамнай электрастанцыі. «Рыбіну кроў» можна чытаць як аповед аб змаганні маленькіх людзей з вялікай уладай і як аповед аб змаганні маленькіх людзей за сваю ідэнтычнасць.




**Бахарэвіч Альгерд. Бэзавы і чорны: Парыж праз акуляры беларускай літаратуры. – Мінск: Зміцер Колас, 2016. – 278 с.**

Кніга ўяўляе сабой спробу аўтара разабрацца ў спектры колераў, у якіх Парыж пераламляецца праз беларускія літаратурныя акуляры, і, з іншага боку, пастарацца ўбачыць, як сама беларуская літаратура адбіваецца (або не адбіваецца, як усякі прывід ці здань) у парыжскім люстэрку. Адрасуецца ўсім блізарукім і дальназоркім, а нават і чытачам з арліным зрокам.




**Цімафеева Юля. Цырк: вершы. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 72 с.**

У другі паэтычны зборнік Юлі Цімафеевай увайшлі вершы, напісаныя ў 2014–2016 гадах у Мінску, Парыжы і беларускай вёсцы Каротькавічы. У чым улада мовы над чалавекам, як мы выяўляем сябе праз цела, што такое паэзія і наколькі жанчына ўпісаная ў палітычна-культурны кантэкст нашага часу – пад гэтымі пытаннямі разважае аўтарка кнігі.




**Кажамяка Уладзімір. Цяпер і мне ўспомніць можна. – Мінск: Зміцер Колас, 2016. – 228 с., [51] л. іл.**

У кнізе Уладзіміра Кажамякі «Цяпер і мне ўспомніць можна» расказваецца пра лёсы людзей, узгадваюцца асобныя факты і падзеі з мінулага і перажытага. Выказана любоў да цудоўнага кутка на зямлі – Мсціслаўшчыны, дзе аўтар нарадзіўся і вырас, а яшчэ і да тых мясцінаў, дзе яму пашчасціла жыць і працаваць.




**Гэйман Ніл. Караліна. Пер. з англійскай Дар'і Вашкевіч пад рэд. Зм. Коласа. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 160 с. [іл].**

Аповесць «Караліна», напісаная ў 2002 годзе вядомым англійскім пісьменнікам-фантастам Нілам Гэйманам, была адзначаная шэрагам літаратурных прэміяў, а ў 2009 годзе па ёй быў зняты мультыплікацыйны фільм, які таксама атрымаў некалькі высокіх кінематаграфічных узнагародаў і нават намінаваўся на прэмію «Оскар».




**Барадулін Рыгор. Перавыбранае. Уклад. А. Хадановіча. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 104 с. (Паэты планеты).**

Рыгор Барадулін (1935–2014) – унікальны майстар беларускага слова, бліскучы паэт і перакладчык, аўтар больш як ста кніжак. Яго творы перакладзеныя на дзясяткі моваў свету. У зборнік увайшлі сто вершаў паэта, якія адлюстроўваюць яго творчую эвалюцыю – ад першай да апошняй кнігі.




**Гёльдэрлін Фрыдрых. Выбраныя вершы. Пер. з нямецкай Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016, – 76 с. (Паэты планеты).**

Незразуметы і належным чынам не ацэнены сучаснікамі нямецкі паэт Ёган Крысціян Фрыдрых Гёльдэрлін (1770–1843) быў асобай унікальнага светаадчування, творчасць якога моцна паўплывала на паэзію XX ст.




**Гайнэ Генрых. Выбраныя вершы. Пераклад з нямецкай Ігара Крэбса. – Мінск: Выдавец Зміцср Колас, 2016. – 84 с. (Паэты планеты).**

Хрысціян Ёган Генрых Гайнэ (1797–1856) – адна з найярчэйшых постацяў нямецкага рамантызму. Кніга ўлучае пераклады, якія друкуюцца ўпершыню і прапануюць новы погляд на творчасць паэта.




**Апалінэр Гіём. Выбраная паэзія. Пер. з франц. – Мінск: Выдавец Зміцср Колас, 2016. – 88 с. (Паэты планеты).**

Гіём Апалінэр (1880–1918, сапраўднае імя – Вільгельм Альберт Уладзімір Апалінарый Кастравіцкі) – французскі паэт з беларуска-польскімі каранямі, адна з найбольш уплывовых постацяў еўрапейскага літаратурнага авангарду ў пачатку XX стагоддзя. Творы ў гэтым зборніку публікуюцца ў новых перакладах А. Хадановіча, Л. Баршчэўскага, Ул. Лянкевіча, К. Маціеўскай, А. Стэфановіча, Г. Янкуты і Зм. Коласа.




**Кэрал Льюіс. Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса. Пер. з англ. Вера Бурлак; маст. Кацярына Дубовік. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 174 с.: іл.**

Сусветна вядомая казка «Скрозь люстэрка, і што ўбачыла там Аліса», адзін з самых загадкавых твораў класічнай літаратуры Вялікабрытаніі, ужо другое стагоддзе вабіць як дзяцей, якім яна непасрэдна прызначалася, так і дарослых.




**Мурзёнак Пётра. Чым трэба ганарыцца кожнаму Беларусу. Пад рэд. Л. Баршчэўскага. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 96 с.**

«Кніга «Чым трэба ганарыцца кожнаму Беларусу» – гэта кароткая гісторыя 1000-гадовай краіны, адлюстраваная ў сцíслай, даведачнай інфармацыі з уключанымі ў яе картамі і табліцамі. Кніга складаецца з трох частак: далёкага мінулага (X–XIX стст.), блізкага мінулага (XX ст.) і сённяшняга дня Беларусі. Кожны з гэтых раздзелаў кнігі прапануе даведацца больш пра сучасныя дасягненні Беларусі, гісторыю краіны і яе развіццё, унікальнасць беларускага народа, асобаў, якія найбольш паспрыялі развіццю нацыі», – піша аўтар у прадмове да кнігі.




**Арлоў Уладзімір. Айчына: маляўнічая гісторыя. У 2 ч. Ч. 1. Ад Рагнеды да Касцюшкі. Маст. Павел Татарнікаў. – Мінск: Тэхналогія, 2016. – 223 с.: іл.**

Кнігу, якая выходзіць у дзвюх частках, склалі цікавыя, спазнаваўчыя і надзвычай багата ілюстраваныя апавяданні з гісторыі Беларусі. Першая частка ахоплівае час ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя.

Для дзяцей, падлеткаў і ўсіх, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй і культурай у папулярным выкладзе.




**Вілейскі павет. Гісторыка-краязнаўчы гадавік. – Вып. 3. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 308 с.: іл.**

«Вілейскі павет» – гісторыка-краязнаўчы гадавік, які знаёміць з гісторыяй і людзьмі Вілейшчыны. Гэта мясціны, якія гістарычна ўваходзілі ў больш вялікі і старажытны рэгіён, які ахопліваў у часы ВКЛ Віленскае ваяводства. На старонках выдання вы пазнаёміцеся з даследаваннямі Д. Лісейчыкава, А. Сцебуракі, В. Жыбуля, А. Капцюга і інш. У выпуску прадстаўлены вялікі мемуарны раздзел, у якім дзеляцца сваімі ўспамінамі У. Папковіч, Т. Козел-Паклеўскі, К. Дубовік. Таксама тут прадстаўлена вялікая колькасць дадатковых матэрыялаў.




**Маркава Алена. Шлях да савецкай нацыі: Палітыка беларусізацыі (1924–1929). – Мінск: Галіяфы, 2016. – 324 с. (Бібліятэка часопіса «Беларускі Гістарычны Агляд»).**

Кніга з'яўляецца першым абагульняльным даследаваннем нацыянальнай палітыкі беларусізацыі (1924–1929) і звязаных з ёю працэсаў фармавання сучаснай беларускай нацыі. Аўтар аналізуе прычыны поспехаў і няўдачаў беларусізацыйных мерапрыемстваў, узаемаадносіны ўлады і нацыянальнай эліты, разглядае беларусізацыю дзяржаўнага апарату і сістэмы адукацыі. Значная ўвага аддаецца стаўленню насельніцтва да правядзення нацыянальнай палітыкі і пытанню беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці.




**Улашчык Мікалай. Збор твораў: у 3-х тамах. Том 1: Працы па археаграфіі і крыніцазнаўству. Пад рэд. Д.В. Віцько, Д.М. Столяра, М.Н. Гальпяровіча; прадм. А.К. Каўкі; пад агульн. рэд. Д.В. Віцько. – Смаленск: Інбелкульт, 2017. – 1360 с.**

Першы том збору твораў вядомага беларускага гісторыка ўключае ў сябе крыніцазнаўчыя і археаграфічныя даследаванні, г. зн. манаграфіі «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» і «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання», артыкулы, рэцэнзіі і прадмовы да розных публікацыяў на адпаведную тэматыку, а таксама два пасмяротныя выданні, якія планаваліся як трэцяя і чацвёртая кнігі гэтай тэматычнай серыі: «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі дасавецкага перыяду: частка другая» і «Мемуары і дзённікі як крыніцы па гісторыі Беларусі».




**Трусаў Алег. Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V–XV стагоддзі). – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 356 с. [іл.].**

Вядомы беларускі археолаг і гісторык Алег Трусаў (нар. у 1954 г. у горадзе Мсціславе) у сваім нарысе адным з першых у папулярнай айчыннай гістарыяграфіі выкладае асноўныя падзеі і з'явы гісторыі сярэднявечнай Еўропы, ад Партугаліі да Паволжа, па-беларуску і з беларускіх пазіцыяў. Асаблівая ўвага надаецца пытанням гісторыі культуры і рэлігійнага жыцця народаў Сярэднявечча.

Кніга адрасуецца ўсім, хто цікавіцца даўняй гісторыяй, паходжаннем дзяржаўнасці розных краінаў Еўропы, у т. л. Беларусі. Яна таксама можа быць карысная настаўнікам, студэнтам універсітэтаў, вучням гімназіяў і ліцэяў.




**Голубеў Валянцін. Гісторыя Беларусі ад заканчэння Другой сусветнай вайны да перыяду будаўніцтва незалежнай дзяржавы (1945–2016 гг.). – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 190 с. [іл.].**

У кнізе выкладзены асноўныя моманты палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і культурнай гісторыі Беларусі ад заканчэння Другой сусветнай вайны да 2016 г. Звернута ўвага на развіццё дзяржавабудаўнічых працэсаў у Беларусі, на значэнне набыцця краінай рэальнага суверэнітэту. Называюцца асноўныя даты, раскрываюцца найважнейшыя тэрміны і паняцці.

Выданне можа быць карысным школьнікам, студэнтам, выкладчыкам, краязнаўцам – усім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.




**Мельнікаў Ігар. Іосіф Лангбард: Класік беларускай савецкай архітэктуры. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Іосіф Лангбард (1882–1951) – савецкі беларускі архітэктар, доктар архітэктуры, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР. Аўтар праектаў знакамітых будынкаў у Мінску: Дома афіцэраў, Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балета, Дома ўрада БССР, Галоўнага корпуса Акадэміі навук і іншых.




**Арлоў Уладзімір. Андрэй Мрый: Прарок у сваёй Айчыне. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Андрэй Мрый (сапр. Шашалевіч; 1893–1943) – выдатны беларускі пісьменнік, аўтар апавяданняў, навел, крытычных артыкулаў. Галоўны яго твор – сатырычны раман «Запіскі Самсона Самасуя», у якім добра паказана псіхалагічная сутнасць «савецкіх актывістаў» і тое, як яны будавалі свае кар'еры за кошт абкружаючых іх людзей. За гэты твор А. Мрый заплаціў зняволеннем і заўчаснай смерцю.




**Тарас Анатоль. Янка Купала: Прарок беларускага народа. – Мінск: «Харвест», 2016. – 64 с.: мал. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Янка Купала (сапр. Іван Луцэвіч; 1882–1942) – класік беларускай літаратуры: паэт, драматург, публіцыст, адзін са стваральнікаў новай беларускай літаратуры і беларускай літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925). Акадэмік АН БССР (1928) і АН УССР (1929). Творы Купалы перакладзены на шмат якія мовы свету.




**Галубовіч, В.У. Князі Друцкія-Горскія ў Вялікім Княстве Літоўскім у XV–XVIII стст. / В.У. Галубовіч, С.А. Рыбчонак, А.І. Шаланда. – Мір: Музей «Замкавы комплекс «Мір», 2016. – 400 с.: іл. – (Серыя «Genus Albaruthenicum»).**

Выданне ўяўляе сабой калектыўную манаграфію, прысвечаную гісторыі, генеалогіі і геральдыцы князёў Горскіх – аднаго з адгалінаванняў старажытнага беларускага княжацкага роду Друцкіх. Прадстаўнікі гэтай галіны роду на працягу XV–XVIII стст. уваходзілі ў сціслае кола эліты Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, аказвалі вялікі ўплыў на ўнутраную і знешнюю палітыку дзяржавы, пакінулі значны след у беларускай гісторыі і культуры. Разглядаюцца такія аспекты, звязаныя з гісторыяй князёў Друцкіх-Горскіх, як іх радавод і шлюбныя сувязі, палітычныя кар'еры, маёмасны стан, біяграфіі і жыццёвыя калізіі славутых прадстаўнікоў роду, а таксама іх гербы і пячаткі.

Для гісторыкаў, выкладчыкаў, студэнтаў і шырокага кола чытачоў, якія цікавяцца айчыннай гісторыяй, а таксама праблемамі беларускай генеалогіі, геральдыкі і сфрагістыкі.




**Пивовар Николай. 50 музеев Витебска: путеводитель. Худож. А. Гайтюкевич. – Витебск: Витебская областная типография, 2016. – 104 с.: ил.**

У даведніку сабрана інфармацыя пра 50 музеях, экспазіцыях і галерэях Віцебска рознага ўзроўню і рознай падпарадкаванасці пачатку XXI стагоддзя. Выданне можа быць цікавым для жыхароў горада і яго гасцей.




**Тухта Валерый. Цярэшкі: гісторыя вёскі і ваколіц. – Наваполацк: А.У. Маладзечкін, 2016. – 96 с.: іл. – (Краязнаўцы віцебшчыны аб любімым краі: выпуск 4).**

Гістарычны нарыс прысвечаны вёсцы Цярэшкі, якая паўстала з хутароў напрыканцы 1930-х гадоў у нетрах Бярэзінскага запаведніка, што на Лепельшчыне. На старонках кнігі апавядаецца таксама пра лёсы сялянскіх родаў, што жылі ў вёсцы на працягу ўсяго яе існавання, апісваюцца гістарычныя мясціны наваколляў Цярэшак. Выданне багата ілюстравана фотаздымкамі з сямейных архіваў вяскоўцаў.




**Трацякова А. (Aliona Traciakova), Зенька Н. (Natallia Zieńka). Наш дом/Our Home: слоўнік-даведнік. Рэдакц. рада: З. Санько, М. Кавальчук, У. Кошчанка, А. Бразгуноў, В. Міцкевіч. – Мінск: Галіяфы, 2016. – 76 с.: іл.**

Тэматычны слоўнік змяшчае больш за 2000 беларускіх і англійскіх словаў і выразаў, якія абазначаюць часткі жылых будынкаў, разнастайныя хатнія справы, гаспадарчыя прылады і інш. Усе слоўнікавыя адзінкі пададзены ў малюнках і згрупаваны ў 32 падтэмы на 44 старонках (раздзелах). Дзеля зручнасці ў канцы кнігі змешчаны беларускі і англійскі алфавітныя паказальнікі з транскрыпцыяй.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кніжны салон»** (вул. Калініна, 5), **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, kniharnia.by, halijafy.by і e-kniga.by.

# Стральцоўскі фэст і «Залаты апостраф»

**Увечары 10 лютага ў галерэі TUT.BY адбылося ўрачыстае адкрыццё Шостага міжнароднага паэтычнага фестывалю памяці Міхася Стральцова. У ягоных межах у 14-ты раз была ўручана штогадовая прэмія за найлепшую публікацыю ў часопісе «Дзеяслоў», якую атрымалі Крысціна Бандурына (дэбют), Валеры Гапееў (проза) і Міхась Скобла (паэзія).**

Трохдзённы паэтычны фестываль сёлета прымеркаваны да 80-годдзя з дня нараджэння свайго патрона Міхася Стральцова, прайшоў на трох пляцоўках і аб'яднаў паэтаў, перакладчыкаў, музыкантаў з Беларусі, Літвы, Чэхіі, Швецыі, Украіны, Польшчы, Расіі.

Партнёры: Шведскі саюз пісьменнікаў, грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!», галерэя TUT.BY, Амбасада Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь, Пасольства Чэшскай Рэспублікі ў Мінску, Чэшскі цэнтр у Кіеве.

Мадэратарам адкрыцця фэсту стаў Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч, з прывітальным словам выступіў Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч.

Традыцыйна фэст «Вершы на асфальце» быў распачаты з чытання твораў Міхася Стральцова на розных мовах, у арыгінале і ў перакладзе. Паўкраінску перастварыў стральцоўскія тэксты і прадставіў іх Сяргей Жадан.

Па-шведску загучалі паэтычныя радкі беларускага класіка дзякуючы перакладчыку Дзмітрыю Плаксу і аўтарцы Мары Лундквіст, якая прадэкламавала іх.

Пісьменнік і даследчык Міхась Скобла прэзентаваў укладзеную ім кнігу «Выгнаны патрыцый», прысвечаную жыццю і творчасці Стральцова.

Традыцыяй і візітоўкай фестывалю «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова з'яўляецца «Вялікае Княства Паэзіі», якое штогод аб'ядноўвае літарацкую супольнасць былых народаў ВКЛ, а таксама гіпатэтычна далучаных да іх народаў.



Мары ЛУНДКВІСТ.



Валеры ГАПЕЕЎ.

Чытанні старэйшага пакалення паэтаў і паэтак перамяжоўваліся з успамінамі пра патрона фестывалю. Так, паэтка Раіса Баравікова нямала распавяла пра сваё знаёмства з Міхасём Лявонавічам. Зазвычай фестываль адкрываўся ў дзень народзінаў Стральцова, але сёлета імпрэзы падзяліліся, і 14 лютага, у дзень 80-годдзя паэта, у музеі Багдановіча можна было паслухаць значна больш успамінаў пра пісьменніка. Раісу ж Баравікову з месца дапаўняла Алена Дзмітрыеўна Стральцова.

Нязменны мадэратар Вялікага Княства Паэзіі Андрэй Хадановіч прачытаў з новай кнігі выбранага Рыгора Барадуліна верш «Прыбалтыка» і запрасіў на сцэну паэта Антанаса Янінаса, выдатнага і вядомага літоўскага літаратара, перакладчыка «Фаўста» Гётэ, старшыню Літоўскага саюза пісьменнікаў. Антанас Янінас: «Я вельмі рады выступаць на гэтым выдатным фестывалі і рады, што працягваецца гэтая задума – узнаўляць Вялікае Княства Паэзіі, якая нарадзілася не без дапамогі літоўскіх паэтаў».

Добрай традыцыяй стала запрашаць на Стральцоўскі фэст гасцей з Швецыі. Сёлета ў Мінск прыляцела вядомая паэтка Мары Лундквіст. Яна – аўтарка цэлага шэрагу паэтычных кніг, лаўрэатка шматлікіх шведскіх літаратурных прэміяў, у тым ліку прэміі Сціга Карлсана, Літаратурнай прэміі Карын Байе, Паэтычнай прэміі Жэрара Баньера, Паэтычнай



Сяргей ЖАДАН.



Міхась СКОБЛА і Анатоль ІВАШЧАНКА.

прэміі Шведскага Радыё, прэміі Аспэнстрэм. На беларускую мову творы Мары Лундквіст перакладае Дзмітры Плакс, яго перастварэнні ўпершыню былі агучаны якраз на паэтычным фестывалі.

Да перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч, якая прачытала беларускія пераклады Дзмітрыя Плакса, далучыўся паэт і перформер Дзмітрый Строцаў, які прачытаў вершы Мары Лундквіст на рускай мове. Яны пазнаёміліся ў Швецыі, і мінская сустрэча была прыемнай неспадзяванкай для Дзмітрыя Строцава.

Упершыню на Стральцоўскім фэсце выступала расійская спявачка, паэтка і перакладчыца Ганна Герасімава (Умка). Сольна і разам з гуртамі «Браневічок», «Новы склад» яна некалькі дзясяткаў гадоў вядзе маштабную канцэртную дзейнасць, выступаючы як на салідных пляцоўках і фестывалях, так і на стыхійна арганізаваных кватэрніках. Ганна Герасімава пераклала з англійскай мовы на рускую раманы бітніка Джэка Керуака «Валацугі Дхармы» і «Біг Сур», але найбольш вядомая як перакладчыца літоўскай паэзіі: у яе перастварэнні выйшлі вершы Гінтараса Патацкаса, Антанаса Янінаса, Генрыкаса Радаўскаса.

Цяпер рыхтуецца да друку том вершаў жывога класіка літоўскай паэзіі Томаса Венцлавы, які 1 сакавіка ў кнігарні «Сон Гогаля» будзе прэзэнтаваны і ў Мінску, з удзелам Умкі і Томаса Венцлавы. Таксама на Вялікім Княстве выступілі беларускія і замежныя паэты і паэткі Уладзімір Глазаў, Кася Сянкевіч, Наталка Кучмель, Марыя Мартысевіч, Алесь Пашкевіч, Антон Рудак, Алесь Емяльянаў-Шыловіч, Дайнюс Гінталас, Марыянна Кіяноўска, Вікторыя Дзікабраз, Крысціна Бандурына. Завершылася імпрэза сумесным выступам Сяргея Жадана і Андрэя Хадановіча, чым была пастаўлена тлустая кропка ў першым дні найбуйнейшага паэтычнага фестывалю Беларусі «Вершы на асфальце».

**Прэсавая служба СБП, фота Вікі Трэнас і Аляксандра Кісялёва**

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Людка Сільнова. Горад Мілаград. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 71). – 312 с.**

Вершы з новай кнігі Людкі Сільновай прысвечаны ўзаемаадносінам чалавека і цывілізацыі, з аднаго боку, і чалавека і прыроды, з іншага. Свет трансфармуецца. Ці застаецца ў ім досыць вольнага месца для шчырасці, кахання, сяброўства, чалавечай годнасці і пачуцця бяспекі? Разам з героямі, якія паўстаюць часам нават з сівой даўніны і легенд, аўтарка даследуе ролю асобнага чалавека ў жыцці сучаснага вялікага горада і інфармацыйнага грамадства. На дапамогу ёй прыходзяць здабыткі сучаснай навукі, музыка і ўласная «тэхніка дэтэктыўнага пісьма». Кніга прызначана сучаснаму, найперш гарадскому, чытачу з добрай адукацыяй і жаданнем прыстасавацца да хуткаплыннага жыцця ў мега-гарадах будучыні.




**Наста Кудасава. Маё невымаўля. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 78). – 116 с.**

Хочам падзяліцца радасцю з аматарамі паэзіі: выйшла добрая (не выдатная, не выбітная – добрая!) кніга. Адзначым пачуццё меры ў гукапісе. І пачуццё густу ў цытаваннях. Вершы Насты Кудасавай як глыток паветра для нырца па жэмчуг – хуткі і глыбокі. Акурат такі, каб паспець скласці восем радкоў. Гэта сярэдні памер Наставых вершаў, памер, велікаваты для допісу ў ФБ і малаваты для тоўстага часопіса... Гэта вершы-сугестыі, дзе інтуіцыя ёсць творчым метадам, дзе адкрыццё робіцца праз аксюмаран, на мяжы фолу.




**Макмілін Арнольд. Рунь: Маладыя беларускія паэты XXI стагоддзя. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – 236 с.**

Да свайго 75-годдзя вядомы брытанскі даследчык беларускай літаратуры, прафесар Арнольд Макмілін падрыхтаваў беларускамоўны варыянт (ангельскамоўны выйшаў у Вялікабрытаніі раней) манаграфіі пра маладую беларускую паэзію. Аўтар аналізуе творчасць 40 паэтаў, якія нарадзіліся пасля 1980 г., на падставе іх дэбютных зборнікаў, выдадзеных на пачатку гэтага стагоддзя. Кніга, якая яшчэ да перакладу выклікала розгалас у літаратурных колах, складаецца з васьмі раздзелаў «Гістарычная спадчына», «Рэлігія і розныя форма набожнасці», «Пратэст супраць адчужанасці», «Ужыванне мовы і яе абарона», «Лірычны прарыў», «Гумар», «Паэзія перформансу» і «Паэты і паэтычнае натхненне». Відавочна, класіфікацыя, ацэнкі і акцэнты Арнольда Макміліна могуць выклікаць здзіўленне ў айчыннага чытача. Але маладая беларуская паэзія мусіць быць удзячная шаноўнаму прафесару: у нас падобнага даследавання няма (і не прадбачыцца), а погляд з боку заўжды цікавы і карысны!

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 42
люты, 2017
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 42 27.02.2017.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com